

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 12 (снежань), 2013

# Мяжа




## У Берасці адзначылі 65 угодкі падпісання Дэкларацыі правоў чалавека

(Старонка 6)

# ЗЬМЕСТ

## Брэсцкі абласны суд падтрымаў забарону пікета ў Бярозе

Брэсцкі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу праваабаронцаў з Бярозы, якія прасілі прызнаць незаконннай забарону пікета 4 жніўня і адмяніць рашэнне суду Бярозаўскага раёну, які прызнаў рашэнне райвыканкаму правамоцным. Па словах праваабаронцы Сержука Русецкага, адмова ў пікеце ў падтрымку палітвязняў парушыла канстытуцыйнае права на свабоднае выказванне сваіх поглядаў і меркаванняў.

Прычынай для адмовы стала адсутнасць дамоў з міліцыяй і бальніцай. Як раённы суд, так і абласны не звярнулі ўвагі на довады праваабаронцаў аб немагчымасці заключэння дамоў. Міліцыя спаслалася на Пастанову Саўміна №207 ад 2012 года, у п.5 якой сказана, што пасля падачы заявы цягам сутак райвыканкам павінен даслаць копію заявы ў міліцыю для ўзгаднення (чаго райвыканкам не зрабіў). Бальніца бярозаўская не заключыла дамову, бо гэта не прадугледжана ў дакументах Міністэрства аховы здароўя і няма нават прэйскуранта на падобныя паслугі.

Праігнаравалі суддзі таксама і тое, што райвыканкам значна парушыў тэрміны адказу.

Па словах праваабаронцаў, яны будуць змагацца як ў нацыянальных судовых інстанцыях за свае правы, так і пры неабходнасці – накіруюць скаргу ў Камітэт правах чалавека ААН.

*spring96.org/be/news/67559*

## Бярозаўскі маторарамонтны завод застаецца без працы

Бярозаўскі маторарамонтны завод стаў паказчыкам развалу сельскай гаспадаркі на Берасцейшчыне. Адсутнасць заказаў на рамонт матораў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў прывяла завод да крызіснага стану, гаворыць адзін з кіраўнікоў сярэдняга звяна:

- Пасля ўборкі сельская гаспадарка аддала ўраджай за

нафтапрадукты, за пазыкі за тэхніку, якая была ўзятая ў лізінг, таму ў іх безграшоўе. І адпаведна рухавікі, якія былі раней здадзеныя ў рамонт, не выкупляюцца, таму што няма рэальных грошай. І адпаведна ў нас няма працы. Аб'ёмы падаюць, не набываюцца запчасткі, каб рамантаваць старую тэхніку. Атрымліваецца безграшоўе і ў нас.

Па словах супрацоўніка завода, з трох цахоў працуе толькі два. Калі ў 70-я гады выпускалі больш 1000 матораў у месяц. Зараз менш 2000 матораў у год. З запланаваных цяпер 50 матораў у месяц, робіцца менш 10. З 8-гадзіннага працоўнага дня рабочы заняты працай толькі 2 гадзіны.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=20414#.UqI4Nudb_xg*

## Баранавіцкі гарвыканкам забараніў пікет да Міжнароднага дня правоў чалавека

Грамадскі актывіст Вячаслаў Болбат 4 снежня атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча, у якім паведамляецца, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне пікета 10 снежня 2013 года. Чыноўнік лічыць, што заяўнік парушыў п. 4 рашэння гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 "Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы". У лісце гарвыканкама традыцыйна не паведамляецца, што канкрэтна парушыў Вячаслаў Болбат пры падачы заявы на правядзенне пікету, але прапануецца ў выпадку нязгоды з такім рашэннем звяртацца ў суд Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы ці ў Брэсцкі аблвыканкам.

– У заяве я напісаў, што паколькі ў пікеце пryме ўсяго 5 чалавек, то абавязкі па забяспячэнні грамадскага парадку падчас мерапрыемства, прыборкі тэрыторыі пасля пікету бяру на сябе. Таксама я адзначыў, што буду мець медычную аптэчку для аказання першай медыцынскай дапамогі. Але гарвыканкам, магчыма, палічыў такі падыход да справы парушэннем свайго рашэння, датычнага арганізацыі масавых мерапрыемстваў, ад 16

чэрвеня 2009 года. Чыноўнікі ад нас патрабуюць, каб мы замест карыснай працы для людзей заключалі абавязковыя дамовы з жыллёва-камунальнай гаспадаркай, паліклінікай і міліцыяй. Але мы добра ведаем, што заключыць такія дамовы ў цяперашні час становіцца толькі марнаваннем часу, бо гэта немагчыма, – адзначыў заяўляльнік пікету Вячаслаў Болбат.

*spring96.org/be/news/67594*

## Берасцейцам дазволілі пікет у лесе

У Міжнародны дзень правоў чалавека ў Берасці прайшлі два пікеты ў аддаленых раёнах горада.

Як паведамляе карэспандэнт charter97.org, мясцовы гарвыканкам дазволіў правесці двухгадзінныя мерапрыемствы на спецыяльна адведзенай тэрыторыі. Так, берасцейскі праваабаронца Уладзімір Вялічкін стаў арганізатарам пікету на стадыёне «Лакаматыў» (на месцы гэтага спартыўнага збудавання раней размяшчаліся габрэйскія могілкі), а кіраўніца абласной арганізацыі прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Зінаіда Міхнюк падала заяўку на правядзенне аналагічнай акцыі ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў, размешчаным у мікрараёне «Усход».

У абодвух выпадках арганізатары пікетаў імкнуліся не толькі






нагадаць берасцейцам пра 65-ую гадавіну падпісання Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, але і прыцягнуць увагу грамадскасці да праблем захавання правоў чалавека ў Беларусі. Пры гэтым акцэнт рабіўся на наяўнасць у краіне палітычных зняволеных.

Увечары 10 снежня ў Берасці таксама запланавана правядзенне «круглага стала», прысвечанага праваабарончай тэматыцы, у якім возьмуць удзел праваабаронцы, прадстаўнікі палітычных партый, незалежных прафсаюзаў і грамадскіх арганізацый.

*charter97.org/be/news/2013/12/10/81571/*

## У Берасці адзначылі 65 угодкі падпісання Дэкларацыі правоў чалавека

65 угодкі падпісання Дэкларацыі правоў чалавека адзначаны ў Берасці правядзеннем двух пікетаў. Адзін з іх прайшоў пад лозунгам: „Свабоду палітвязням!" Пікетоўшчыкі трымалі ў руках сцягі і плакаты з выявамі палітвязняў, а таксама паштоўкі, на якіх Алесь Бяляцкі на фоне кратаў. Арганізаваў пікет праваабаронца




Уладзімір Вялічкін.

На пікеце прысутнічалі сябры партыі “Справядлівы свет”, Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), грамадскага аб’яднання “Гавары праўду”, кажа сябра “Справядлівага свету” Людміла Дзенісенка:

- Думаю, што нашая грамадскасць не мусіць забываць пра тое, што ў Беларусі ёсць палітвязні. І мы нашым пікетам хочам сказаць, што ім даўна пара даць волю.

Аляксандар Дзенісенка:

- Удзельнічаю ў пікеце таму, што надаела мне гэтая ўлада! Кажу праўду вам. Маё сэрца палае з-за таго, што такія свядомыя людзі сядзяць за кратамі. Хачу, каб яны былі на волі і дыхалі вольным паветрам.

У мерапрыемстве прынялі ўдзел 8 чалавек. Пікет прайшоў спакойна, без правакацый.

* * *

Дазволенае ўладамі мерапрыемства прайшло ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў. У пікеце прынялі ўдзел 22 чалавекі. У руках яны трымалі сцягі і плакаты з надпісамі сваіх прэтэнзіяў да ўлады. Арганізатар пікету, старшыня Берасцейскага абласнога прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Зінаіда Міхнюк лічыць, што на




пікет выйшлі мужныя людзі:

- Шмат маіх паплечнікаў, якія не баяцца, прыйшлі, узняліся з каленяў, ведаюць, што такое правы чалавека, і мы іх будзе адстойваць. І гэта мы робім, каб у нашай краіне была будучыня, каб у нашых дзяцей была будучыня.

Прысутныя выказалі свае думкі наконт сітуацыі з правамі працоўных у Беларусі:

**Святлана Алісюк**: Прыйшла, каб яшчэ раз звярнуць увагу, што ў нашай краіне парушаюцца правы чалавека – як палітычныя, так і эканамічныя.

**Аляксандр Мех**, жыхар Кобрына: Прыехаў, каб падтрымаць людзей, якія заўсёды выходзяць і бароняць правы. І не толькі свае правы, але і правы тых, хто да іх звяртаецца.

**Уладзімір Андрасюк**: Правоў у нас няма. Гэты дзень адзначаю ўжо даўно. Шкада, што мы не Майдан, не Украіна, хочацца, каб народ у нас разумеў гэта ўсё і дамагаўся сваіх правоў.

Прававы інспектар **Уладзімір Малей** выказаў упэўненасць, што хутка такія мерапрыемствы будуць праходзіць не ў бязлюдных парках на ўскрайку горада, як гэта адбылося ў Берасці, а на плошчах.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=20550#.UrLvt5BdUvT*

# Вярхоўны суд не задаволіў скаргу незалежнай журналісткі з Брэста

Мілана Харытонава спрабавала аспрэчыць рашэнне суда Маскоўскага раёна г.Брэста, які адхіў яе пазоў аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі. У якасці адказчыка па гэтай справе праходзіў карэспандэнт дзяржаўнага выдання “Брестский вестник” Уладзімір Міневіч, які летась змясціў зневажальныя каментары ў дачыненні да незалежнай фотажурналісткі на адным з гарадсіх інтэрнэт-парталаў.

Суд першай інстанцыі адхіліў пазоў Харытонавай, спаслаўшыся на тое, што адказчык мае канстытуцыйнае права на свабоду слова, а зневажальных выразаў з яго боку не было. Пазней гэтае рашэнне пакінуў без зменаў і Брэсцкі абласны суд.

У адказе, які падпісаны намеснікам старшыні Вярхоўнага суда РБ Андрэем Забарай, гаворыцца, што скарга Міланы Харытонавай на рашэнне суда Маскоўскага раёна г.Брэста не падлягае задавальненню, бо аспрэчваемыя фразы “не могуць быць правераны на прадмет адпаведнасці іх рэчаіснасці, паколькі выказваюць толькі асабістую ацэнку адказчыкам канкрэтных падзеяў”, а доказы абразаў на адрас аўтара пазову з боку Уладзіміра Міневіча ў матэрыялах справы адсутнічаюц

*spring96.org/be/news/67881*

## Алеся Чаркашына будуць судзіць



Сёння ў судзе Ленінскага раёна Брэста адбудзецца разгляд адміністратыўнай справы актывіста Алеся Чаркашына, якога вінавацяць ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

15 снежня Алесь Чаркашын каля ганку Брэсцкага аблвыканкама зладзіў перформанс, апрануўшыся як пракок і запэцкаў рукі чырвонай фарбай. Пад час акцыі Чаркашын заклікаў улады пакаяцца за свае грахі перад народам.

Пасля акцыі ён быў затрыманы і накіраваны ў псіхіятрычную лякарню на экспертызу. Пасля яе актывіста адвезлі да суду ў пастарунак.

*spring96.org/be/news/67906*

## Раман Кісляк: справа Алеся Чаркашына будзе мець працяг

Алеся Чаркашына вымушаны былі адпусціць, лічыць юрыст-праваабаронца з Брэста Раман Кісляк. Актывіста БХД павінны былі судзіць у 9 гадзін. З дастаўкай у суд спазніліся на гадзіну, а затым стала вядома, што яго адпускаюць Чаркашына, паколькі суддзя не стаў разглядаць справу ў сувязі з недакладнасцямі ў пратаколе правапарушэння.

Раман Кісляк адзначае, што паводе Працэсуальна-выканаўчага кадэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях чалавек, затрыманы па адміністрацыйнай справе, павінен быць дастаўлены ў тэрміновым парадку на працягу 48 гадзін да суддзі. Тэрмін такога затрымання не можа перавышаць 72 гадзін. Відавочна, што супрацоўнікі міліцыі не змаглі даставіць Алеся Чаркашына на працягу 48 гадзін, каб быў пачаты разгляд справы.

Раман Кісляк лічыць, што не было падстаў змяшчаць маладога чалавека і ў стацыянар псіханеўралагічнага дыспасэра, паколькі ён проста выказваў свае погляды, на штто мае права -- нават у такой незвычайнай форме.

Праваабаронца лічыць, што гэтая гісторыя будзе мець працяг, калі міліцыянты выправяць недахопы ў пратаколе.

Нагадаем, што 15 снежня Алесь Чаркашын зладзіў перфоманс на ступеньках перад Брэсцкім аблвыканкамам. Апрануўся ў “прарока”, абвязаў рукі ланцугамі і abліў іх чырвонай фарбай. Яна

сімвалізавала кроў беларусаў.

Актывіст заклікаў улады пакаяцца за грахі перад народам.

Праз 10 хвілін ён зыйшоў і быў затрыманы супрацоўнікамі Ленінскага РУУС. адкуль яго забралі санітары псіхіятрычнага дыспансэра.

*spring96.org/be/news/67923*

## Праваабаронцы заявілі пра пляны назіраць за мясцовымі выбарамі

У сакавіку 2014 году ў Беларусі адбудуцца чарговыя выбары ў мясцовыя саветы. Праваабаронцы БХК і «Вясны» абвясьцілі, што пачынаюць доўгатэрміновае назіраньне за тым, як пройдзе выбарчая кампанія.

Старшыня Беларускага Хэльсынскага камітэту Алег Гулак назваў мэты назіраньня:

«Мы ня лічым, што мясцовыя выбары будуць мець нейкае вялікае значэньне для сытуацыі ў краіне, але ўсё ж такі гэта тая кампанія, якую мы ня можам не аналізаваць і не адсочваць. Тым больш, што звычайна ў такі час абвастраецца сытуацыя з правамі чалавека, і таму таксама за гэтым трэба сачыць. І яшчэ для нас важна, як будуць дзейнічаць зьмены ў Выбарчы кодэкс, якія зараз уводзяцца. Плюс, канечне, важны агульны палітычны кантэкст гэтай падзеі, бо выбары ёсьць сутнасьцю палітычнай сытуацыі ў краіне».

Праваабаронцы заяўляюць, што будуць назіраць за выбарчай кампаніяй ад яе пачатку, бо вельмі важна, як выконваецца ўся працэдура: ад вылучэньня кандыдатаў, іх рэгістрацыі, агітацыйнага пэрыяду і да саміх выбараў. Дзеля гэтага праваабаронцы БХК і «Вясны» чарговым разам аб’ядналіся ў кампанію пад назвай «Праваабаронцы за свабодныя выбары», якая вядомая з 2008 году. Алег Гулак паведаміў, што яны плянуюць далучыць да назіраньня за мясцовымі выбарамі і валянтэраў.

*www.svaboda.org/content/article/25207448.html*

# Па схеме Хадаркоўскага могуць вызваліць Статкевіча,

— экспэрт Палітаглядальнік Раман Якаўлеўскі лічыць, што вызваленьне Хадаркоўскага, калі ён напісаў прашэньне аб памілаваньні без прызнаньня віны, — добры прэцэдэнт і для беларускіх палітвязьняў:

«Такая фармулёўка вельмі падыходзіць да Мікалая Статкевіча і да іншых палітвязьняў. Прашэньне аб памілаваньні ня значыць прызнаньня віны, хоць улады кажуць, што гэта абавязкова».

Паводле Якаўлеўскага, вызваленьне Хадаркоўскага паказала «рэальны патэнцыял нямецкай дыпляматыі»:

«Нешта падобнае адбывался з Казуліным, калі нямецкі амбасадар Вайс актыўна працаваў. Я б не выключаў, што сакрэты нямецкай дыпляматыі маглі б праявіцца і ў справе палітвязьняў у Беларусі. Я б не хацеў выдзяляць Статкеівча, але ён найбольш гучны. Сытуацыя зайшла ў тупік, Эўропа хоча нешта рабіць, але пытаньне з палітзьняволенымі ў Беларусі невырашальнае».

З Хадаркоўскага Мандэлы не атрымаецца. Не сакрэт, што ў Расеі (і ня толькі) багатых ня любяць.

Якаўлеўскі ня згодны з камэнтатарамі, якія кажуць, што Хадаркоўскага ў турме зламалі. Але і ня верыць у тое, што экс-магнат стане апазыцыйным лідэрам:

«З Хадаркоўскага Мандэлы не атрымаецца. Не сакрэт, што ў Расеі (і ня толькі) багатых ня любяць. На прэс-канфэрэнцыі ён казаў, што ня будзе займацца палітыкай, але падкрэсьліваў, што будзе дапамагаць іншым няправядліва асуджаным. Нібыта палітыка і праваабарончая дзейнасьць — гэта розныя рэчы. Але ў нас усё палітыка. І ў Расеі таксама».

Пакуль справа ня зьнятая, ён ня бачыць гарантыяў для сябе ў Расеі. І не выключае, што будзе павінен зноў зьехаць

«Хадаркоўскі хацеў быць расейскім Сорасам, — распавядае Якаўлеўскі. — Пэўныя асобы кажуць, што ён ніякі не маральны аўтарытэт, бо толькі грошы зарабляў у ліхія гады. Я бы нагадаў

такія рэчы, што яго фонд „Адкрытая Расея“ вельмі дапамагаў мэдыям, напрыклад, „Інтэрньюз“, альбо ліцэй-інтэрнат „Падмаскоўны“ для дзяцей зь цяжкм лёсам. Пра гэта забыліся».

Паводле Якаўлеўскага, Хадаркоўскі разьлічвае, што зь яго здымуць абвінавачваньні па першай справе, паводле якіх ён вінен сплаціць велізарныя сумы грошай:

«Пакуль справа ня зьнятая, ён ня бачыць гарантыяў для сябе ў Расеі. Таму не выключае, што пры нявырашаным пытаньні ня будзе мець магчымасьці ў любы час выехаць за мяжу».

*www.svaboda.org/content/article/25208990.html*

## Актывіста з Бярозы затрымалі за ўлёткі пра «Стоп-падатак»

Актывіста з Бярозы Аляксандра Кабанава затрымалі за раздачу ўлётак пра акцыю «Стоп-падатак».».

Супрацоўнікі міліцыі ў цывільным у некалькіх месцах чакалі кіраўніка раённай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандра Кабанава, які быў адным з арганізатараў мясцовай акцыі 20 снежня, і ўбачылі яго разам з братам Яўгенам каля крамы Еўраопт. У 17 гадзін яны былі затрыманыя супрацоўнікамі Бярозаўскага РАУС падчас раздачы ўлётак з заклікам падтрымаць акцыю «Стоп-падатак», піша ПЦ «Вясна».

Са слоў Аляксандра Кабанава, яны паспелі раздаць каля 30 улётак з заклікам да неабыякавых гараджан падтрымаць акцыю, пасля гэтага былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі ў цывільным.

На Аляксандра Кабанава і яго брата былі складзеныя пратаколы і канфіскаваныя ўлёткі. Праз паўтары гадзіны яны былі

*charter97.org/be/news/2013/12/22/82391/*

## Павіншуем палітвязняў з Калядамі ды Новым годам! (адрасы тут)

Мікалай Статкевіч у тэлефоннай размове з жонкай прасіў павіншаваць усіх неабыякавых людзей з Калядамі і Новым годам,

пажадаў “нам добрых пераменаў, не губляць надзеі, і ніколі не здавацца”.Павіншуем і мы палітвязняў з Калядамі ды Новым годам, які прынясе змены да лепшага.

Мікалай Статкевіч патэлефанаваў родным з турмы, паведаміла яго жонка - Марына Адамовіч:

- У камеры зараз цёпла, на здароўе Мікола ня скардзіцца, шмат чытае. І нават, амаль святочная навіна ёсць - на атаварцы з'явіліся лімоны і часнык. Гэта, сапраўды, амаль свята.

Адрасы палітвязняў:

**Алесь Бяляцкі**

213807, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, ІК №2, атрад №14.

**Эдуард Лобаў**

225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, "Воўчыя норы", а / с 20

ІК № 22

**Мікола Статкевіч**

212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а

ІК № 4

**Мікалай Дзядок**

212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а

ІК № 4

**Ігар Аліневіч**

211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8

ІК № 10

**Яўген Васьковіч**

212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а

ІК № 4

**Арцём Пракапенка**

212013, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК № 15

**Мікалай Аўтуховіч**

230023, г.Гродна, вул.Кірава, 1, турма №1

**Васіль Парфянкоў**

220030, г.Мінск, вул. Валадарскага, 2 СІЗА-1

**Уладзімір Яроменак**

225413, Брэсцкая вобл., г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258, СІЗА №6

**Андрэй Гайдукоў**

213030, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК № 19

адрасы паводле spring96.org

*www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=20882#.UryFaZBdUvR*

## Бацька Мікалая Статкевіча: «Тры гады ўжо пішу яму кожную сераду»

Споўнілася тры гады, як за кратамі апынуўся былы кандыдат на прэзыдэнта Мікалай Статкевіч, якога суд асудзіў на 6 гадоў зьняволеньня нібыта да арганізацыю беспарадкаў 19 сьнежня 2010 году — у дзень прэзыдэнцкіх выбараў.

Як Мікалай Статкевіч трапіў у калёнію, а потым у магілёўскую турму, зь ім рэгулярна лістуецца ягоны бацька Віктар Паўлавіч Статкевіч. Ён апавёў пра падрабязнасьці гэтага ліставаньня.

Віктар Статкевіч

«Кожную сераду я яму пішу, і ён мне піша. Незалежна ад таго, прыйшоў ад яго адказ, ці не. Бо бываюць затрымкі часта. А па тэлефоне ён звычайна званіў у пачатку месяца, але пакуль не званіў. Чамусьці не было званку».

Паводле Віктара Паўлавіча, сын у лістах да яго ні на што ня скардзіцца, піша аптымістычна і бадзёра, у тым ліку пра сваё здароўе. Пра сваё ж здароўе бацька Статкевіча выказваецца стрымана. Нядаўна Віктар Паўлавіч на Ўкраіне перанёс апэрацыю, пачуваецца пакуль ня лепшым чынам, але спадзяецца, што пойдзе на папраўку і дачакаецца выхаду сына на волю.

Паводле жонкі палітыка Марыны Адамовіч, у камэры палітвязьня, дзе раней было вельмі холадна з-за рамонту, уключылі ацяпленьне. «Гэта адбылося адразу, як мы паведамілі пра холад у камэры Статкевіча», — адзначае Марына Адамовіч.

*www.svaboda.org/content/article/25208163.html*

# Брэсцкі гарвыканкам адрэагаваў на просьбу праваабаронцы

10 сьнежня 2013 года праваабаронца Уладзімір Вялічкін, звярнуўся ў Брэсцкі гарацкі выканаўчы камітэт да намесьніка старшыні гарвыканкама Барысюка Г.І.. Падставай да звароту паслужыла падрыхтоўка і правядзеньне пікету прысьвечанага 65 гадавіне ўхваленьня Ўсеагульнай Дэкларацыі Правоў Чалавека.

У выніку падрыхтоўкі выявілася, што выкананьне рашэньня Брэсцкага гарвыканкама № 1210 ад 30 чэвеня 2011 ў частцы падпункта 5.1, заключэньне дамовы з “аддзеламі ўнутраных спраў адміністрацый раёнаў горада Брэста па месцы правядзеньня масавага мерапрыемства – па ахове грамадскага парадку падчас правядзеньня мерапрыемства”, немагчымае.

Таму як супярэчыць п.п. 5-8 Пастановы Савету Міністраў РБ ад 05.03.2012 № 207 “мясцовы выканаўчы і распараджальны орган напрацягу аднаго дня з моманту рэгістрацыі заявы на правядзеньне масавага мерапрыемства накіроўвае яго копію ў тэрытарыяльны орган ўнутраных спраў (далей - ОУС) дзеля разгляду пытаньняў, якія звязаныя з аховай грамадскага парадку і забесьпячэньнем грамадскай бясьпекі, і выпрацоўкі адпаведных прапаноў”.

Уладзімірі Вялічкін папрасіў намесьніка старшыні, ў моц ягоных паўнамоцтваў, прапанаваць старшыні Брэсцкага гарвыканкаму выключыць з пункта 5 вышэйзгаданага рашэньня гарвыканкаму падпункт 5.1.

Неўзабаве з гарвыканкаму за подпісам кіраўніка справамі В.В. Чарнова быў атрыманы адказ датаваны 23 сьнежня 2013 за № 35-1/321Л:

“Брэсцкім гарацкім выканаўчым камітэтам падрыхтаваны праект рашэньня “Аб унясеньні зьмены ў рашэньне Брэсцкага гарацкога выканаўчага камітэта ад 30 чэрвеня 2011 г. № 1210”, якім прадугледжана з пункта 5 прыбраць пункт 5.1.”

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»